№ 54 Ausgabe B.

# ГОМАН

Цэна с перэсылкай і дастаукай да хаты: на 1 год—4 м. 80 фэн., на ½ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы — 1 м. 20 ф., на 1 мес. — 40 фэн.

Беларуская Віленская часопісь выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Адрэс рэдакціі: Вільня, Завальная 7.
Адрэс адміністрацыі і экспэдыцыі: М. Стэфанская 23.

Цэна абвестак: на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі — 25 фэніг.; дробные абвесткі—па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці — 60 фэн. за лінейку дробн. друкам.

№ 54 (146). Год II. Вільня, 6 ліпня 1917 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.).

# 900 арэштоў у Мінску.

## 5 ліпня.

Заходні тэатр:

*Фронт Рупрэхта Баварскаго*: Слабы агонь, стычкі патрулёў.

*Фронт нямецкаго Насьледніка*: Дагэтуль французы 15 разоў дарэмна прабавалі адабраць здабытые намі пазыціі пры Шмэн дэ Дам, на ўсходзі ад Сэрні.

---

Адна з нашых лятучых эскадр атакавала ўчора укрэпленьня пры Гаррычу, на ўсходнім узбярэжжы Англіі. Удачна скінуты некольki тысяч кілёграмоў бомб. Усе лятуны вярнуліся назад.

Усходні тэатр:

*Фронт Леопольда Баварскаго*: У усходняй Галічыне—слабы агонь. На гарах пры Бэрэжанах расейцы выкінуты з некалькіх вырв, дзе яны ешчэ дзержаліся.

На фронці эрц-гэрцога Іозэфа, Макензэна і Македонскім — без перамен.

---

ШТОКГОЛЬМ. Расейскіе газэты пішуць аб штодзенных арэштах сотняў палітычных праступнікоў, вызволеных рэволюцыей. Іх хочуць ізноў выслаць, бо яны карыстаюць са сваей свабоды дзеля таго, каб прылучыцца да Леніна і вясьці агітацію проці дыктатуры Керэнскаго. У Пецярбургі і Маскве ўжо арэштавалі 8.000 душ, у Томску — 1.500, а ў Мінску—900 палітычна-неблагонадзёжных. Шмат дзе быўшые ахвяры царызму бараніліся з аружжэм у руках, і ўзнімаліся акуратные бітвы.

ЛЮГАНО. «Corr. d. Sera» данесіць с Пецярбурга:

Здарэньня апошніх дзён давядуць да крызіса антагонізм між тымчасовым урадам і радай раб. і салд. Урад загадаў цэнзураваць рэзолюціі рады раб. і салд., калі іх будуць пасылаць заграніцу ці на фронт.

БАЗЭЛЬ. Вярнуўшыйся гэтымі днямі с Пецярбурга швэд апаведае, што Расея стаіць напярадодні другой, ешчэ страшнейшай рэволюціі. Палажэньне — безнадзейнае. Урад, праўда, мае ахвоту, ды не здалее развязаць усе справы, якіе ждуць развязкі.

БЭРН. 48-летні генэрал Аляксей Гутор назначэн главнакамандуючым расейскім палудзенна-заходнім фронтам. Дагэтуль ён быў начальнікам 11-ай арміі, быў на японскай вайне і ў бітвах на Карпатах. Генэрал Элембовскій назначэн главнакамандуючым паўночна-заходнім фронтам, ген. Денікім—цэнтрам заходняго фронту, ген. Шчэрбачэв—румынскім фронтам, ген. Эльснэр—главным інтэндантам палудз.-заходняго фронту.

«Бірж. Вед.» пішуць:

Некаторые часьці цэнтру расейскаго заходняго фронту адмовіліся наступаць.

ПЕЦЯРБУРГ. (П.Т.А.). Адбыліся выбары ў вялікую местовую думу. Выбрано: большэвікоў—37, соцыал-рэволюцыонероў—54, кадэтоў—47, меньшэвікоў—40, дэмократычных соцыалістоў—5, нацыональных соцыалістоў—6 і трудавікоў—11.

КОПЭНГАГА. Англіцкі міністэр працы Гэндэрсон аддаў расейскаму міністру Тэрэшчэнко пісьмо, ў каторым выказываюцца жальбы на тое, што англіцкіе капіталы, паложэные ў расейскіе прэдпрыемствы, могуць прапасьці с прычыны расейскіх здарэньнеў.

Пецярбурское газовае т-во 1835 г. прасіло местовую управу ўзяць у свае рукі прэдпрыемство ўражэ, бо с прычыны недастачы каменнаго вугальля урад прэдпрыемства ня можэ яго сам далей вясьці.

ЛЮГАНО. З Афін даносяць, што ходзяць чуткі аб жаніцьбе маладога грэцкаго караля Александра з англіцкай прынцэссай.

БЭРЛІН. Прынц Георг грэцкі на нейкі час прыехаў у Бэрлін.

---

## Натуральные саюзьнікі.

Тымчасоваму ураду ў Расеі пададзено 37 заяў з жаданьнем аўтономіі. 37 народаў і краёў, пражываючых у межах Расейскай дзержавы, у след за разгромам самадзержавія заявілі, што дзеля поўнай волі яны павінны атрымаць права самым строіць сваю будучыну і быць гаспадарамі на сваей зямлі. Украіна, Фінляндія, Каўказ і іншые ў вадзін голас трэбуюць перастройкі Расейскай дзержавы ў вольны саюз вольных народаў Расеі.

Аднак, гэты рух да рэорганізаціі Расеі на аснові фэдэраціі спаткаўся зразу жэ с сільнай опозіцыей са стараны расейскай буржуазіі: нават лібэральная буржуазія ў гэты вялікі момэнт вызваленьня не здалела вызваліцца ад ліхой спадчыны, якую яна прыняла ад старога ладу. Спадчына гэта—імпэрыялізм.

Імпэрыялізм — жаданьне будаваць сваё гасударство ня ў тых межах, у якіх народ жыве, а ў шырэйшых — далучаючы землі суседзяў і абертаючы апошніх у сваіх нявольнікоў, сваіх слуг. У гасударствах з рознаплямённым насяленьнем імпэрыялізм у дужэйшаго народу будзіць пачуцьцё панаваньня над іншымі націямі, пачуцьцё, што ён адзін—пан у тэй дзержаве, што дзержава—гэта яго ўласнасць, яго дом, у каторым ён толькі церпіць другіе нацыональнасьці, і тые павінны забыцца аб сваіх патрэбах, адрачыся думкі аб волі і верна служыць «дзержаўнай» націі.

Такі імпэрыялізм панаваў у самадзержаўнай Расеі, і ў духу гэтаго імпэрыялізму расейская школа, расейскае грамадзкае жыцьцё узгадовывало цэлые пакаленьні расейцоў. Ад малых год ім убівалі ў галаву думку, што яны — адыные гаспадары ў Расейскай дзержаве, што ўсе іншые нацыональнасьці—„інородцы" не маюць тутка ніякіх правоў. І гэта мысль была вельмі да спадобы расейскай буржуазіі: яна так прывыкла панаваць над сваімі расейскімі „мужыкамі" і работнікамі, што падгарнуць пад сябе ешчэ чужые народные массы было для яе вельмі заманчыва.

Пачуцьця „дзержаўнасьці" сваей не пазбыліся і расейскіе лібэралы,—гэтак сама, як ня можэ пазбыцца буржуазія іншых „дзержаўных", ці „быўшых дзержаўнымі" нацыональнасьцей (напр. польская і інш.). Вось—прычына таго, што цяпер, калі паняволеные царскім правіцельствам народы Расеі хочуць дабыць для сябе поўную волю, расейская буржуазія ўсіх кірункоў бачыць у гэтым „пакушэньне на правы расейскаго народу", каторы, на яе пагляд, адзін толькі можэ лічыць сябе поўнапраўным гаспадаром у Расейскай дзержаве, адзін толькі можэ судзіць, каму трэба даць волю, а каму—не.

Тымчасовы урад і ня хочэ прызнаць незалежнасьці паадзінокіх краёў, якіе ў розным часі былі заваёваны расейскімі царамі. На гэтым грунці будучына суліць яшчэ вельмі сур'ёзные здарэньня, каторые адаб'юцца і на агульным палажэньні Расеі.

За ўвесь доўгі час змаганьня народаў Расеі с самадзержаўным ладам толькі шчыра дэмократычные элементы, толькі вольные ад уселякаго імпэрыялізму массы працоўнаго народу, толькі соцыалістычные організаціі напярод прызнавалі за кожнай націей право на самаапрэдзеленьне, на устройство свайго жыцьця паводлуг сваей уласнай думкі. І цяпер ідэя фэдэрацыйнай дэмократычнай рэспублікі мае шчырых прыхільнікоў толькі між соцыалістамі.

Рэволюція ў Расеі яшчэ ня скончэна. Перад намі яшчэ стаіць вострае, не на жыцьцё, а на сьмерць, змаганьне між буржуазіей і пролетарыатам,—і ў тэй становічай бацьбе няволеные векамі народы Расеі павінны зрабіць выбар: с кім ісьці. А практыка мінуўшчыны і сучаснае становішча нават лібэральнай буржуазіі паказваюць, што нацыональная карысьць нерасейскіх народаў вымагае, каб усімі сваімі сіламі гэтые народы паддзержалі расейскі рэволюцыйны пролетарыат і у момэнт пабеды апошняго правялі ў жыцьцё апавешчэную ўжо на славах ідэю сваей незалежнасьці.

*І. Мелешка.*

---

## Незалежная Украіна.

Вельмі цікавые весткі аб палажэньні украінскай справы дае часопісь «Breslauer Anzeiger».

Можна ўжо цяпер сказаць, што аддзяленьне Украіны ад Расеі — справа скончэная. Ніадна аснованая «Украінская Цэнтральная Рада» вядзе ўсе неваенные справы краю. Добра разумеючы сваю задачу, працуе Рада дзеля таго, каб здабыць найвышэйшую ўласць для украінскай дзержавы. Чысло адкрытых на Украіне школ узрасло на 150. Кіеўскі унівэрсытэт зусім у руках украінцоў. Гэтымі днямі ў Кіеві адбылася украінская маніфэстація на чэсць украінскаго нацыональнаго героя Івана Мазэпы. Першы раз выступіла тут нованаладжэная на-

цыянальная міліцыя. Усе прамоўцы выходзіліся на тым, што трэба на кожным кроку бароцца з жаданьнем Расеі адабраць цяпер здабытую украінскую волю. Цяпер—найлепшы момэнт, каб арганізаваць украінскую нацыянальную армію. Гэта армія павінна быць організована так, як нідаўна організована міліцыя. На маніфэстаціі быў прачытан адказ пецярбурскаго правіцельства на украінскіе дамаганьня, каб с фронту былі звольнены салдаты-украінцы дзеля паступленьня іх у украінскую нацыональную армію. Паадзінокіе прамоўцы адзначывалі, што гэны адказ пецярбурскаго ураду мае на мэці новае прасьледаваньне украінскаго народу. Побач былі чутны крыкі проці Кэрэнскаго і пецярбурскай рады раб. і салд. Рух украінцоў да незалежнасьці у апошніх часах робіць вялікіе крокі ўпярод.

# У Вільні і ваколіцах.

× **На вёску.** У Сераду раніцай Беларускі Камітэт выправіў новую партыю дзяцей у двор Кочаны, каля Яшун. Разам з дзяцьмі паехало і некольні бацькоў. Яны прабудуць тамака ўсё лета.

× **У Беларускім Клюбе** у суботу і нядзелю — звычайные вечарынкі.

× **Біскуп Ропп ня вернецца ў Вільню.** «Dabartis» даносіць:

Газэта «Čas» пішэ, бытцым высланы з Вільні біскуп Ропп, які цяпер пражывае на Каўказі, атрымаў пазваленьне вярнуцца ў Вільню. Мы даведаліся с пэўнай крыніцы, што вестка газэты «Čas» нязгодна с праўдай.

Значыць, біскуп Ропп у Вільню ня вернецца.

× **«Помач працаю».** Пад гэткім названьнем у Вільні ад 1903 году ёсць жыдоўскае грамадзкае прэдпрыемство пры вул. Субоч № 19. Тамака працуюць дзеці, вырваные, так сказаць, з небаспекі жыцьця вуліцы, працуюць людзі, здаецца, ўжо засуджэные на пагібель, і узгадовываюцца здаровые душой будучые пакаленьня рамесьнікоў. У часі вайны расейскі урад закрыў гэту установу, але ў кастрычніку 1915 г. яна адкрылася нанова. Кожнаму, хто цікавіцца грамадзкімі проблемамі, ня шкодзіло бы агледзіць гэту установу, якой справядліва можэ пахваліцца тутэйшае жыдоўскае грамадзянство.

× **Дабрачынны саюз «Ахва» (Брацтво)** раздаў ад 1 студня 1915 г. да 1 ліпня 1917 г. бедным людзям у сваім окрузе хлеба на сумму 27.554 м. 45 фэн.

× **Аб прадажы спажыўных прадуктоў** «Wiln. Ztg.» пішэ:

За апошні час да Stadthauptmann'a паступаюць чысьленые просьбы прыватных асоб аб прадажу спажыўных прадуктоў. Гэткіе просьбы — дарэмные: прыватным асобам местовае упраўленьне прадуктоў не прадае.

× **Прадажа сыру.** У местовых пекарнях прадаюць цяпер танна белы сыр без хлебовых карт. Трэбало-б выкарыстаць гэту магчымасць атрымаць танны і здаровы прадукт.

× **Напамінаньне.**

Stadthauptmann напамінае, што за ўселякую таргоўлю картамі на спажыўные прадукты сурова карацімуць. За апошні час перад народнымі страўнямі можна было бачыць біржы, на якіх ішоў торг картачкамі. Даведзено, што іншые асобы купляюць у дзень па 4 порціі.

× **Дворнікі звальняюцца ад старожы** перад дамамі ад 10 гадз. вечара да 5 г. раніцы.

× **Проці пажароў!** «Wiln. Ztg.» пішэ:

Пастаянные пажары ў Вільні паказваюць, што тут усё ешчэ людзі не даволі асьцярожна абходзяцца з агнём. Гэтак, адзін служачый курыў у местовым складзі. Само сабой разумеецца, што яго і надсмотрщчыка, дапусьціўшаго гэта, выдалілі са службы. Асабліва цяпер, калі пажар можэ зніштожыць спажыўные прадукты, неасьцярожнасць з агнём — гэта праступак проці насяленьня.

× **Конфэрэнція пастароў.** 3 ліпня тут адбылася конфэрэнція нямецкіх ваенных пратэстанцкіх капэляноў X арміі, на каторай было 45 пастароў.

× **Поўнае зацьменьне месяца.** У начы с 4 на 5 ліпня было поўнае зацьменьне месяца. Яно пачалося а 9 г. 52 м. вечара, калі поўны месяц толькі-што падняўся над палудзенна-усходнім кругазорам. Круг месяце быў увесь пакрыт а 10 г. 51 м. і яго не было відаць да 12 г. 27 м. Зацьменьне скончылося а 1 г. 25 м. пасьля поўначы.

× **Тэмпэратура.** Найвышэйшая і найніжэйшая тэмпэратура за апошніе дні была (па Цэльсію):

| | найвыш. | найніж. |
|---|---|---|
| 1—2 | + 31° | + 15,5° |
| 2—3 | + 26° | + 16° |
| 3—4 | + 20° | + 11° |

# З усяго Краю.

ГРОДНЯ. Па ўсей Гродзеншчыне за апошні тыдзень былі сільные дажджы, каторые вельмі добра адбіліся на пасевах.

ГРОДНЯ. Загадам Stadthauptmanna ўсе гаспадары садоў у межах местоваго округа Гродні павінны тры чверці сёлетняго збору пладоў і ягад здаць за плату у Stadthauptmanna. Апошняя чверць можэ быць астаўлена дзеля свайго ужытку.

БЕЛАСТОК. У пачатку ліпня тут наладжэна выстаўка флямандзкіх каронак. Наладзіў яе цэнтральны урад дзеля выкарыстаньня каронак у Бруссэлі.

Падобные выстаўкі ладзяцца у Брэст Літоўску і ў Лібаве.

САКОЛКА. У апошнюю нядзелю тут быў прускі міністэр фінансоў, едучы з Беластоку; ён знаёміўся з экономічным палажэньнем.

ШЧУЧЫН. Акалічные селяне вельмі жаляцца на шкоды, якіе робяць дзікі асабліва бульбе, забегаючы сюды с суседніх вялікіх лясоў. Жыхары ахвотна запалялі бы на гэтых шкоднікоў, ды гэта забаронена цывільным асобам.

ВАСІЛІШКІ. У васілішскім павеці закончэна выдача пашпартоў, і адгэтуль кожын абязан мець пры сабе пашпарт Об Ост.

КУЗЬНІЦА. Струпскі лес між вёскамі Кадрэўцы і Іванаўцы пачаў гарэць. Энэргічнай працай жыхароў гэтых вёсак праз 2 гадзіны ўдалося пажар затушыць.

У ваколіцах Кузьніцы злавілі жыхара Гродні, Якава Рэннэра, з дзьвема вялікімі бляшанкамі з гарэлкай.

КОЎНА. Ад 2 ліпня кожын дзень а 5 г. раніцай адгэтуль выходзіць параход у Тыльжу.

ЯНОЎ. 3 чэрвеня г. г. жыдгандляр яйкамі, Довід Мэйеровіч, быў застрэлен з рэвольвэра па дарозі са Студзенчнай у Трасьцянку. А 5 гадз. раніцай у гэты дзень у лесі былі чутны выстрэлы. Труп праз некольні дзён знайшлі абрабаваны ў лесі. За спайманьне ліхадзеёў назначэна награда да 300 м.

СУВАЛКІ. За адну толькі ноч с тутэйшых хлявоў укралі трох сьвіней. Дзьве тут жэ закалолі. Гаспадары нічога ня чулі.

СОДНОВО, Владысл. пав. Захарэвіч, хлапец 17 гадоў, і яго два сваякі 19 і 18 гадоў, 21 сьнежня паехалі на санях у Ругі, дзе у аднаго гаспадара, як яны дачуліся ад сястры, было 4.000 руб. грошы. У начы яны ўварваліся ў хату таго гаспадара,ператрэсьлі ўсіх, ды знайшлі толькі 33 рублі, боты, калёшы, кажух і цэнтнэр сьвініны. Сувальскі акружны суд засудзіў першаго с-паміж іх на 6 гадоў у вастрог, другога — на 8 гадоў у папраўчы дом. Справа трэйцяго выдзелена і будзе разгледжэна на чародным заседаньні.

САДОВА, пад Сувалкамі. З невядомай прычыны тут узняўся пажар, каторы, ня гледзячы на работу дабравольнай пажарніцкай дружыны, зніштожыў 15 хат.

ЕГЛОВАК, каля Пунска. Ад пяруна запаліліся два гумны. Агонь перакінуўся з іх на пяць хлявоў і вазоўню, каторые ўсе згарэлі.

ОЛЬШАНКА. Нідаўна тут укралі двох каней. Цяпер на нямецкай граніцы жандары затрымалі двох коннікоў, каторые, кінуўшы каней, уцяклі. Коні аказаліся тые самые, якіе тутака ўкрадзены.

# З усяго сьвету.

ПЭКІН (Рэўтэр). Гэнэрал Шанг-Хун, галава ваеннай партыі, быў 1 ліпня а 1 г. папалудні у прэзыдэнта рэспублікі і прэдлажыў яму падацца у адстаўку, ды пры гэтым сказаў, што Гсунтунг, з Манджурскай дынастыі, ізноў узышоў на імператарскі трон.

ПЭКІН. (Гавас). Учора апавешчэны імператарскіе дэкрэты аб павароці констытуцыйнай імператарскай уласьці. Назначэна вялікая дзержаўная радэ і сэнат. У Пэкіне—спакойна, хаця часць жыхароў — у нэрвовым стане. Прэзыдэнту рэспублікі прэдлажылі адрачыся ад свайго становішча,— аднак, ён адказаў, што хутчэй памрэць, чым гэта зробіць.

С Тянтсіна даносяць, што нельга будзе абмінуць грамадзянскай вайны, калі новы імператар не адрачэцца.

БЭРЛІН. Бэрлінскіе газэты друкуюць заяву пр. Дэльбрыка, пр. Гарнака і пр. Нэрнста, палітыкоў Рорбаха і гр. Монса, ды іншых, у каторай гаворыцца:

„Мы трэбуем, каб урад прэдлажыў прускаму сэйму зрабіць рэформу выбарнаго права на аснові агульнай, роўнай, простай і тайнай падачы галасоў і каб ён, наагул, даў відочны знак давер'я, на каторае заслужыў нямецкі народ“.

БЭРЛІН. Констытуцыйная камісія Рэйхстага занімалася сягоньня справай завядзеньня агульнай, роўнай для ўсіх, простай і тайнай падачы галасоў ва ўсіх краёх нямецкаго саюза і ў Эльзас-Лётарынгіі. Соцыяліст жадаў пропорцыональнасьці выбароў, пад а-

# Дзень добры у хату!

— Дзень добры у хату сястрыцы і брату—ад старых дзядулек да малых Янулек! Паслухайце дзеда у стала, у абеда: с чэлабіцьцем прашу—шчыра „ацьку“ скажу. Маё сэрцэ паўнютка, гаварыць буду хутка і чыста і гладка, зразумее дзіцятка. Не з жыцьця прастога, ад Госпада Бога. Я буду казаці, а не жартаваці. Дык, нібы авечкі, маўчыце, чэлавечкі!

Гукніце, людцы, Амін!

— Ой, калі ласка, пачну, бытцым казку: у курнай хацінцы з авечкай, са сьвінкай шмат гадоў жыў, гарэваў, тужыў, енчыў, кленчыў Клімка Сядун, бяздольны гарбун. Не шмат днёў—шмат гадоў, тры дзесятачкі, без бацькі, без матачкі ён сіднём сідзеў, хварэў, мадзеў, ня мог кратацца, ня мог выйсьці; ня мог слаўненька жыці, есьцікі, піці...

І ў лета і ў марозу ліў, гаротненькі, сьлёзы не малюсенькіе, — ой, гаркусенькіе, не ласкавые,—ой, крывавые... Пакуль ня вытрываў, пакуль ня выцярпеў — давай жэгнацца, давай маліцца, каб Матухна Божа яго мілавала, каб Багародзіца яго шкадавала...

Гукніце, людцы, амін!

— Давай агледацца, давай азірацца мой Клімка туды і сюды, ажно дзьвер адкрываецца, не памала — ўрываецца ў хату каліка Сьвятый. Клімка толькі—ой, ой! прэд сабой глядзіць—той каліка стаіць, барада сіва—морэ, а вочы як зоры, замест шапкі пар-месяц,, замест кія—бліскавіца, і за пазухам слонцэ, і гэтак ён кажэ:

— „Ой, досыць сідзець, ой, досыць мадзець, выпрастай багатырскіе плечы. Як даўней Сьвятагор затармошыш сыр-бор, гулі-гуліньні пойдуць па гаю... Сам крэпак, здароў за сто багатыроў стопудовай сахой, з залатою дугой, на кані вараненькім, у сьвітцэ даражэнькай пакатай сваё поле араць. Махнеш пугай ўвакруг — задрыжыць лес і луг, і суседзі-сябры, і кумы, і сваты прыбягуць пазіраць. Ты пачнеш жартаваць, здыймуць шапкі яны здзіўлёные, пачнуць гутаркі хітра спляцёные. Ты дзякуй ім скажэш, язык свой развяжэш, што не шанавалі, што не шкадавалі дагэтуль цябе“...

Гукніце, людцы, амін!

— Ой, даражэнькіе маі! Ой, міленькіе маі! Ня выдумку-казку, не пустую байку кажу вам на казачны лад, а праўду чыстую, як вада крыністая.

Той сядун—гэта наш Беларус.

Ен дагэтуль сідзеў, ён дагэтуль мадзеў бяз руху, бяз духу, бяз думак—мышленьня, балота мутней, чорназёму цямней, сьмірней жучочка, ніжэй лісточка, ліў сьлёзы ад гора—нуды, не знаў, як выйсьці з бяды. Але і у яго ваконцэ заглянуло сонцэ, і думы яго пасьвятлелі. Туд-сюд адзін міг—ён ня горэй усіх: вырываліcь таёмные сілы і пайшоў гуляць і ўсім паказаць, што і ён чэлавек, гараваў увесь век для другіх, а дарэмна.. Але вон той ланцуг! грай, дуда, на ўвесь луг, што знік той прымус, што жыве беларус!..

Гукніце, людцы, Амін!

**Змітрок Бядуля.**

чы галасоў кабетамі і паніжэньня чыннаго выбарнаго цэнзу да 20 гадоў. Паступовец заявіў, што яго партыя адкіне трэбаваньне соцыялістоў устанаўленьня цэнзу ў 20 гадоў і галасаваньня кабет.

ДРЭЗДЭН. Саксонскі урад адмовіўся вясьці далей перэгаворы с так-званай пасрэдніцкай дэлегацыей аб рэформе конституціі. Конфлікт гэтак пачаўся. Большасць прыгатаўляе станоўчые крокі.

ВЕНА. Імператарскім рэскрыптам на імя міністра-прэзыдэнта ф. Зэйдлера апавешчэна амністыя за праступкі, ўчыненые перад вайной або ў часі яе. Амністыя абнімае: ўсіх засуджэных цывільнымі або ваеннымі судамі за здраду гасударства, абразу Вялічэства, праступкі проці грамадзкаго ладу, бунты і т. п. З амністыі выключаюцца асобы, якіе ўцяклі за граніцу, перайшлі да ворагоў, або ў пачатку вайны не вярнуліся у Аўстрыю.

БУДАПЭШТ. Граф Юлій Андрашы праектуе наладзіць вялікую партыю рэформ з усіх парляментскіх партый на аснові соцыялістычнай програмы.

БЭРН. Сабраньне хрысьціянска-соцыялістычных організацій Швэйцарыі пастанавіло наслаць Папежу адрэс, у каторым гаворыцца:

„Каталіцкіе работнікі ўсяго сьвету, даходзячы ідэалу каталіцкаго сьветагляду, безупынна напружаюць усе сілы, каб Папество заняло мейсцо пастаяннаго пасрэдніка ў палітычных справах між націямі і каб была наладжэна сусьветная організація вольных, сувэрэнных і незалежных народаў з вольным, сувэрэнным і незалежным галавой — Папежэм. Яны лічаць канечне патрэбным, каб каталікі ваюючых старон змовіліся між сабой пры пасрэдніцтве каталікоў усіх краёў, і спадзяюцца, што касьцёл развяжэ міжнароднае пытаньне, і Ваша Сьвяцейшасць скора прынясе церпячаму сьвету мір і згоду“.

ЖЭНЕВА. Прынц Андрэй, апошні брат караля, астаўшыйся ў Грэціі, атрымаў прэдлажэньне пакінуць край.

Тымчасовы урад у Салоніках стаўся законным урадам усяе Грэціі і прыгатаўляецца да пераезду ў Афіны.

# Рэволюція у Расеі.

ШТОКГОЛЬМ. Ураз жэ пасьля прыезду прэдстаўнікоў расейскай рады раб. і салд. пачаліся супольные нарады іх з дэпутатамі нямецкіх крайніх соцыялістоў і трывалі 4½ гадзіны. Нарады будуць трываць і ў чародные дні.

ПАРЫЖ. «Petit Journal» даносіць:

Спаўніцельны камітэт французскіх соцыялістоў прыняў перэвагай ²/³ галасоў запрошэньне Расеі на міжнародную мірную конфэрэнцію.

ШТОКГОЛЬМ. Прэдстаўнік англіцкай незалежнай работніцкай партыі Кайён гэтак вітаў усерасейскі з'езд раб. і салд.:

„Наша партыя з вялікай радасьцю глядзіць на перэварот у Расеі. Мы спадзяемся, што расейская дэмократія дзеля карысьці інтэрнацыоналу адрачэцца ад сэпаратнаго міра, але яна павінна прымусіць англіцкі і французскі урад пагадзіць іх ваенные мэты з жаданьнямі расейскаго дэмократызму. Іскры ад расейскай рэволюціі лятуць на Англію. Німа споркі, што калі расейскі перэварот будзе цьвёрда ісьці па сваей дарозі, дык у Англіі так сама узнімецца рэволюція.“

Трэвэльян і Понсонбы, каторые ў пачатку вайны былі членамі англіцкаго міністэрства, але выступілі з яго на знак пратэсту проці вайны, ў якой Англія даходзіць толькі матэр'яльных мэт, перакананы, што вайна павінна закончыцца мірам без аннэксій і контрыбуцій.

ПЕЦЯРБУРГ. (П.Т.А.). Тымчасовы урад прызывае адозвай усіх грамадзян, забыўшыся аб асабістых інтэрэсах, паддзержаць армію, каторая пачала наступленьне дзеля ратунку рэволюціі і вольнаго расейскаго народу.

Ваенны міністэр скасаваў усе одпускі з арміі.

Тымчасовы урад звярнуўся да расейскаго флоту з адозвай, у якой гаворыцца: „Флот пакажэ, што вялікі дар волі не аслабіў, а узмацаваў нас і даў сілу да новых дзел“.

ШТОКГОЛЬМ. Паводлуг вестак з Расеі, наступленьне на фронці вызвало ў народзі сільнае абурэньне. Ва ўсіх вялікшых местох адбыліся сабраньня дзеля пратэсту проці массовых забойств сыноў Расеі. Абурэньне кіруецца асабліва проці англічан, каторых называюць провокатарамі далейшай бойні. Керэнскаго называюць здраднікам народу. У Маскве проці абурэнаго насяленьня былі пасланы казакі. За апошні тыдзень арэштовано многа крайніх соцыялістоў.

Паводлуг пецярбурскіх вестак, партыя Леніна пануе ў Пецярбургі. Яго староннікі зажадалі на ўсерасейскім з'ездзі рад раб. і салд. выключэньня Керэнскаго з работніцкай партыі. С 460 дэлегатоў 201 падалі голас за выключэньне, 259—проці.

На вялікай дэмонстраціі было каля 500.000 душ, у тым ліку жаноцкіе батальёны, каторые называюць «батальёнамі сьмерці». Кабеты-салдаты былі стрыжэные, ў доўгіх ботах і салдацкай форме.

ПЕЦЯРБУРГ. (П. Т. А.). Вялікую дэмонстрацію на Марсовым полі ля магіл ахвяр рэволюціі устроілі рада раб. і салд. і «большэвікі». Кадэты учасьця не прынімалі. «Меньшэвікі» і ўмяркаваная дэмократія станавілі меншасць. С прычыны таго, што на дэмонстраціі былі «большэвікі» са сваімі знамёнамі, дэмонстрація мела характэр: проці ураду і за мір.

ГААГА. На дэмонстраціі ў чэсць ахвяр рэволюціі ўчасьнікі трэбавалі уладжэньня новаго правіцельства, бо цяперашняе слухае чужых дзержаў і карысць Расеі стаўляе на другое мейсцо. Вялікіе грамады народу несьлі па вуліцах штандары, на якіх былі надпісы проці правіцельства

ЛЮГАНО. „Corr. della Sera“ даносіць с Пецярбурга аб новым руху за мір, каторы энэргічна пратэстуе проці высылкі Грымма. Спадзяюцца сэнсацыйнаго адкрыцьця. З асаблівай цікавасьцю прыглядаюцца да паступкоў вярнуўшыхся са Швэціі расейскіх соцыялістоў.

БЭРН. Экіпажы броненосцаў балтыцкаго флота «Гангут» і «Россія» збунтаваліся, калі ім загадалі атакаваць Кронштадт. Афіцэроў выкінулі ў ваду, іншых арэштавалі. Забіты 33 афіцэры. Абодва броненосцы стаяць у Кронштацкім порці, вывесіўшы чорные штандары.

ШТОКГОЛЬМ. Пецярбурскі «День» даносіць, што на броненосцы балтыцкаго флоту «Рэспубліка» (быўшый «Імператор Павел І») з невядомай прычыны ўзарваўся кацёл с цяжкімі пасьледзтвамі. Броненосец сур'ёзна папсаваны ляжыць у Рэвальскім порці.

ЦУРЫХ. Італьянскіе газэты даносяць, што ў Севастопалі часць чорнаморскаго флоту збунтавалася проці тымчасоваго ураду. Рух узняўся с прычыны пропаганды Леніна.

ПЕЦЯРБУРГ. (Рэўтэр). У розных губэрнях анархісты організавалі так-званую народную міліцію, да каторай у розных местох належаць ужо дзесяткі тысяч аружных членоў. У арміі анархісты энэргічна набіраюць салдатоў у гэту міліцію.

БАЗЭЛЬ. (Гавас). Усерасейскі з'езд рад раб. і салд. пастанавіў утварыць цэнтральную організацію пад назваўньнем «Рэволюцыйная дэмократія», зложэную з 250 дэпутатоў ад з'езду раб. і салд., 250 дэпутатоў ад селян, 50 дэпутатоў ад пецярбурскай рады раб. і салд. і 100—ад арміі, каторые, аднак, будуць толькі прыежджаць на заседаньня ў Пецярбург.

ПЕЦЯРБУРГ. У начы на чэцьвер тымчасовы урад разгледаў украінскую праграму і ўсемі галасамі высказаўся проці таго становішча, якое заняла цэнтральная рада Украіны і украінскі ваенны з'езд. Тымчасовы урад пастанавіў паслаць на Украіну спэцыяльную дэпутацію, каб пазнаёміцца с палажэньнем. Дэпутація будзе складацца з асабліва популярных асоб і найбольш выдатных прэдстаўнікоў палітычных партый.

ПЕЦЯРБУРГ. Усерасейскі з'езд рад раб. і салд. прыняў рэзолюцію аб нацыональнай справе. Тамака гаворыцца, што развязка гэтай справы павінна быць аддадзена устаноўчаму сэйму, але тымчасовы урад ужо цяпер павінен правясьці законы, каторые забасьпечывалі-бы правы ўсіх пражываючых у Расеі нацыональнасьцей і давалі-бы роўные правы ўсім мовам. Аднак, расейская мова астаецца офіцыяльнай мовай.

---

## Рэформа расейскаго правопісма.

Здаўна ў расейскім грамадзянстві ішоў рух да рэформы правопісма, каторае мело ў сабе вельмі многа зусім непатрэбных і прост шкодных пережыткоў. За рэформу высказывалася і пецярбурская академія навук, але спробы правясьці рэформу ў жыцьцё разбіваліся аб консэрватызм старога ураду, каторы нават тут на хацеў зрабіць уступкі трэбаваньням жыцьця. І толькі рэволюція, разбіўшая стары лад, прынесла развязку і справе рэформы расейскаго пісьма.

Рэформа гэта дужа набліжае расейскае пісьмо да беларускаго («кірыліцы»). Вось тые перамены, каторые па загаду міністра асьветы Мануйлова да пачатку новаго школьнаго году павінны быць уведзены ў жыцьцё.

---

# У вёсцы.

(С цыклю „Мадонны“)

*Lumen coeli, sancta rosa!*

А. Пушкін.

Хвалююць сэрцэ нам дзявочые пастаці
І душы мацярэй нас могуць чараваці;
Вышэйшая краса—ў іх злітнасьці жывой!
Артысты-маляры схіляліся прад ёй,
Жадаючы з'явіць цераз сваё халсьціны
Пачуцьця мацяры у обліку дзяўчыны.
Красы тэй сымвалам, Маць-Дзева, стала Ты,—
І глянулі Твае с-пад пэнзэлёў чэрты.
С таёмным трэпетам на іх я пазіраю,
А сэрцэ ўсё імкне да бацькаўскаго краю,
Мінулае сваё прыпамінаю я!
Між цёмных абразкоў прайшоўшаго жыцьця
Шукаю сквапна штось трывожнаю душою
І вось адно здарэньне ўстае перадамною.

* * *

Калісьці летняю рабочаю парой
Праз вёску я ішоў. Пануралю чаргой
З абох бакоў крывой і вузкай вулкі хаты
Стаялі шэрые, струхлеўшые; як латы,
Віднеліся ў сьценах сьляпые вокны іх,
І аж чарнелася салома стрэх гнілых.
Усё руйнавалося, старэло, адмірало,
І мала што вакол хоць трохі аздабляло
Вясковую нуду; мак яркіе цьвяткі
Рожнакалёрные, як тые матылькі,
У градах высыпаў і цешыў імі душу,
Ды можна йшчэ было там-сям пабачыць [грушу
Крывую, старую... вось толькі і ўсяго!
І да таго-ж з людзей ня відна нікаго:
Яны на полі ўсе; не мельканець спадніца,
Ня пройдзе з вёдрамі па воду маладзіца,
Ня ўгледзіш белую магерку мужыка.
У паветры не памкне іржаньне жэрэбка,
І песьня сумная не паліецца звонка...
Што-ж дзіўнаго, калі, раптоўна крык дзя- [цёнка
Пачуўшы, дрогнуў я і аглядзеўся. Ах!!
Я спудзіў хлопчыка. На ручках і нагах
Ен, бедненькі, папоўз па траўцы ля сьця- [жынкі
Да нянькі траплючы—так год васьмі дзяў- [чынкі
І вось, дабраўшыся, ў падолак разам з ей
С трывожным голасам уткнуўся ён хутчэй,
І, як схіляецца ад ветра верх бярозкі,
Дзяўчынка к хлопчыку нагнулася і, сьлёзкі
Сціраючы яму, штось пачала казаць,
Каб заспакоіць плач, — зусім, як бытцым [маць.
І саліваліся ў жывы абраз ядыны
Той выгляд мацяры ды з облікам дзяўчыны
Дзіцячым, цененькім; і ў гэты час яна,
Здавалося, была аж да краёў паўна
Якойсь шырокаю, радзімаю красою,—
І, помню, я на міг пахарашэў душою.
А можэ не краса была ў дзяўчынцэ той,—
Дзяўчынцы ўпэцканай, і хілай, і худой, —
А штось вышэйшае, што Рафаэль вялікі
Стараўся выявіць праз Маці Божай лікі.

* * *

Страніца лепшая ў штодзённіку жыцьця!
Зноў с ціхай радасьцю цябе чытаю я.
Хай шмат чаго с тых год крыніца змыла
У памяці маей, хай тэй дзяўчынкі мілай
Ужо облік губіцца у цёмнай глыбіне, —
Я веру, ў цяжкі час ён гляне на мяне!

Максім Богдановіч.

